№ 59 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 59 (151). Год II. Вільня, 24 ліпня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## У Галічыне!

### 23 ліпня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У Фляндрыі артылерыйская бітва ізноў дайшла поўнай сілы. Яна трывала і ў начы. Ворагі атакавалі на ўсім фронці на нашы прывязные лятучые шары, якіе кіравалі агнём. Гэта атака с паветра адбіта. Ворагі утрацілі 8 самалётаў. Вострые атакі былі ў начы між Авіонам і Мэрікур. Пачатковые ўдачы ворагоў ізноў зьнішчэны.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: На паўночным склоні Зімовай гары, пры Краонн, мы пасунулі свае пазыціі ўпярод на шырыні 1 кілём. і ўзялі 230 палонных.

---

Адна з нашых лятучых эскадр абкідала бомбамі Гарріч на ўсходнім беразі Англіі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Група войск Эйхгорна: Уздоўж Дзьвіны, асабліва каля Дзьвінска і набапол Нароча, значна узмацаваўся агонь артылерыі. На палудзенным заходзі ад Дзьвінска адбіто расейскае наступленьне. Між Смаргонямі і Крэвам расейцы атакавалі ізноў і ў некаторых мейсцах уварваліся на пашы пазыціі. У вечары ворагі былі зусюль, апрыч двох мейсц выкінуты контратакай. Сягоньня раніцай новые расейскіе атакі на поўдні ад Смаргоні адбіты нашым зашчытным агнём.

Група войск Бэм-Эрмолі:

Расейцы адступаюць на ўсім фронці ажно да самых Карпат. Мы стаім каля самаго Тарнополя і перайшлі за чыгунку Рогатін—Остров. Наступленьне трывае на абапол Днестра. На поўдні ад чыгункі ворагі аказвалі цьвёрды адпор.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: Уздоўж Карпат да Путна баевая чыннасць узмацавалася. Наступленьня ворагоў адбіты.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: На ніжнім Сэрэці крапчэйшы агонь суліць бітвы.

---

БЭРЛІН. (В.Т.Б). Адна з нашых падводных лодак у Атлянтыцкім акіяні ізноў затапіла 23.500 тонн.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Ваенны міністэр Керэнскій выдаў прыказ па арміі і флоце, ў каторым гаворыць аб здарэньнях у Кронштаці і на некаторых параходах балтыцкаго флота. Прыказ канчаецца гэтак:

„Я прыказываю ўраз жэ распусьціць глаўны камітэт балтыцкаго флота і выбраць новы, арэштаваць у 34 гадзіны павадыроў і адаслаць іх дзеля сьледзтва і суда ў Пецярбург; апрыч таго даць заверэньне поўнай слухмянасьці тымчасоваму ураду. Я заяўляю, што калі кронштацкіе часьці і матросы ня споўняць гэтаго загаду, дык яны будуць лічыцца за ворагоў бацькаўшчыны і рэволюціі, і я ўчыню проці іх самые суровые крокі.

ПЕЦЯРБУРГ (Рэўтэр). Адстаўка кн. Львова тлумачыцца тым, што ён быў проці правядзеньня ў жыцьцё ўраз жэ праграмы соцыялістычных міністроў, бо гэта было бы роўназначным нарушэньню правоў установучаго сэйму.

ШТОКГОЛЬМ. Паводлуг вестак пецярбурскіх газэт, англіцкі пасол Буканэн чуецца змарыўшымся і маніцца цакінуць сваё мейсцо. Відаць, здарэньня апошніх дзён, меўшые характэр варожы да Англіі, і былі прычынай гэтай заявы. Толькі «Нов. Вр.» кажэ, што Буканэн астанецца на сваім мейсцы.

ШТОКГОЛЬМ. Украінскае бюро даносіць:

Расейскі ўрад уступіў на ўсіх пунктах і прызнаў унутрэную аўтономію Украіны і украінскае міністэрство, як найвышэйшую ўласць краю. Толькі ў ваенных справах тымчасовы урад ешчэ стаіць за еднасць расейскай арміі.

*Вільня, 24 ліпня 1917 г.*

Расейцы сваім наступленьнем у Галічыне нарушылі трываўшае ўжо некольki месяцоў маўчлівае замірэньне ваюючых на нашым фронці армій. Уступаючы дамаганьням саюзьнікоў, а разам с тым, як мы ўжо пісалі ў «Гомане», кіруючыся і палітычнымі мэтамі, расейскі тымчасовы урад напружыў усе свае сілы, каб зрабіць, здавалося, аслабеўшаму ўжо ворагу магутный, нішчучый удар. І першые ўдачы папраўдзі як-быт цым сулілі спаўненьне сьмелым плянам расейскіх палітыкоў. Аднак, судзячы паводлуг данясеньнёў нямецкаго генэральнаго штабу, вера расейцоў у аслабленьне Нямеччыны аказалася ні на чым не асснованай: ваенных сіл Нямеччыне хапіло ня толькі на тое, каб адбівацца крок за крокам ад наступаўшых у Галічыне расейскіх войск, але і каб на ўдар адказаць такім жэ ўдарам. Апошні, як ужо вядома с тэлеграм, скончыўся перарывам расейскіх пазыцій каля Злочова.

Мы яшчэ ня ведаем, у якой меры немцы здалеюць выкарыстаць сваю ўдачу. Але значэньне нямецкаго контрудара ўжо цяпер можна ацаніць.

Перш за ўсё, як ужо сказано, сваім контр-наступленьнем немцы выявілі сваю мілітарную сілу, — тым болей, што нямецкі прарыў зроблен зусім недалёка ад таго мейсца, дзе былі сабраны аграмадные расейскіе сілы дзеля наступленьня на Львоў. Прарыў пры Злочове зроблен акурат там, дзе яго найменш можна было спадзевацца і дзе пасунуўшыеся ўпярод расейцы не пасьпелі ешчэ добра акапацца.

Аднак, трэба думаць, што пры выбары мейсца для свайго контрнаступленьня нямецкая найвышэйшая каманда кіравалася і палітычнай мэтай. Даволі прыпомніць, што на ўсенькім фронці войскі цэнтральных дзержаў стаяць на чужой тэрыторыі, і толькі ў Галічыне вайна вядзецца на тэрыторыі Аўстрыі.

Мы думаем, што паварот Гіндэнбурга да «рухомай» вайны ўнясе вялікае ажыўленьне на усходнім ваенным фронці; аднак, ніхто ня можэ напярод сказаць, якіх навін трэба тут спадзевацца.

---

## У чым сіла народаў?

Гісторыя — гэта вялікая вучыцелька народаў: яна перэдае патомным пакаленьням усю жыцьцёвую практыку пакаленьнёў мінулых, даючы гэтак магчымасць распазнаць тую дарогу, па якой ідзе натуральнае развіцьце кожнаго народу, — распазнаць, што для яго найбольш цэнна, важна і патрэбна, — чаго ён павінен дабівацца, на што пакіраваць свае творчые сілы.

А гэта вучыцелька громкім голасам прамаўляе да нас, што сіла і моц кожнаго народу аснована на культурнасьці, на развіцьці творчых сіл і на чынным учасьці ў будаваньні яго жыцьця народных масс.

Ужо цяперашняя сусьветная вайна паказала, што не чысло жыхароў, а іх культурнасць дае перэвагу на палёх бітв: даволі адзначыць, што ў Расеі ў паўтара раза больш народу, чым у Нямеччыне і Аўстрыі разам, — але затое ў Нямеччыне народная асьвета стаіць у два ці тры разы вышэй, чым у Расеі, затое ў цэнтральных дзержавах народные массы ўжо даўно прынімаюць учасьце ў грамадзкім і гасударственным жыцьці іх пад той час, як у Расеі да апошняй рэволюціі народ быў пазбаўлен асьветы, пазбаўлен усіх грамадзкіх правоў, пазбаўлен голасу ў жыцьці свaей бацькаўшчыны, ў каторай панавала кучка чыноўнікоў і паноў с самадзержаўным царом напярадзі. І вось, ня гледзячы на чысьленую перэвагу, ня гледзячы на тое, што проці Нямеччыны выступіў блізка ўвесь сьвет, вялікая Расейская дзержава ня толькі не дайшла праз тры гады пабеды, але войскі ворагоў глыбока ўрэзаліся ў межы яе... А чы ня тое-ж было ў вайне між Расеей і Японіей? А чы не памятаем мы француска-прускай вайны, калі, як прызнана ўсім сьветам, «французаў зваеваў нямецкі народны вучыцель»?...

Гляньмо далей у мінуўшчыну: ў гісторыю нашых суседзяў і нашу ўласную.

Вялікую і моцную дзержаву мелі калісь палякі. Але Польшча—гэта была шляхоцкая дзержава: ў ей панавалі і карысталі з вельмі шырокіх правоў і поўнай волі толькі вышэйшые станы, а ў тым жэ часі народные массы стагналі пад цяжкай паншчынай, ня мелі ні прасьветы, ні права голасу ў жыцьці свайго краю. У цяжкіх для Польшчы часах, калі суседніе дзержавы пастанавілі раздзяліць яе між сабой, народные массы ня мелі сілы і магчымасьці даць належны адпор, абараніць сваю бацькаўшчыну. І найвышэйшы культурны расцьвет польскаго народу адносіцца не да часоў незалежнаго бытаваньня, а да часоў найнавейшых, калі і да народных масс дайшоў сьвет культуры, калі і яны пачалі жыць сьвядомым жыць-

цём і выяўляць сваю творчую сілу.

А літвіны? Жывучы ў незалежным Вялікім Князьстве Літоўскім, насіўшым імя сваё ад імі літоўскаго народу, ўсе літоўскіе вышэйшые станы, ўся іх інтэлігенція, ўсе гасударственые ўласьці прынялі сперша беларускую мову, бышую мовай гасударственай у колішняй Літве, пасьля — польскую, і толькі народные массы, быўшые ў падобным жэ палажэньві, як і польскіе, захавалі літоўскі язык, захавалі свае нацыональные адзнакі. З гэтай прычыны да самаго апошняго часу аб літвінох, як аб нацыональнасьці, ніхто нічога ня ведаў, аб літоўскай культуры не было ніякай гукі.—і нацыональная культура гэтаго блізка трохмільённаго народу пачала развівацца толькі на нашых вачах, калі збудзілася ад сну масса народная, калі нарадзілася літоўская народная інтэлігенція, калі праз вусты яе загаварыў літоўскі дэмос.

Гляньмо ўрэшці на нас самых. Беларусы маюць за сабой часы высокаго культурнаго развіцьця, калі беларуская інтэлігенція, беларускіе вышэйшые станы станавілі гасударствены элемэнт у Вялікім Князьстве Літоўскім, калі ў мове беларускай пісаліся ўсе гасударственые акты і дакумэнты, калі яе ужывалі ўсе гасударственые ўрады—ад найніжэйшых да найвышэйшых, калі па-беларуску друкавалі законы гасударства і ўселякіе кнігі, каторые цяпер становяць толькі памятку слаўнай мінуўшчыны нашай. Але ва ўсей гэтай культурнай рабоці і ў гасударственым творчэстве мы не бачым учасьця „нізоў“ народных, а бачым толькі „вярхі“—беларускае панство. І калі гэтае панство пачало польшчыцца, пачало адрэкацца тэй мовы, якая злучала яго с „простым“ або „посполітым“ народам, дык і створэная ім культура занепала, а народ, як быў цёмны і забіты, такім і астаўся ажно да нашых часоў, калі счэзьлі путы рабства, калі прыйшла „весна народаў“, і дзевяцімільённая беларуская масса прабудзілася нацыональна. падала свой голас і прыступіла да творчай культурнай работы, кладучы фундамэнт для новаго, вольнаго жыцьця.

Мы бачым з усяго гэтаго, што сіла наша—ў нас самых, у тых мільёнах сермяжнікоў-хлебаробаў і работнікоў, каторые ешчэ ўчора ня ведалі, хто яны, не знали свайго імі, а сягоньня пачулі сябе вольнымі людзьмі, роўнапраўнымі з усімі грамадзянамі і гаспадарамі на сваей зямлі. І гэта павінен добра зразумець кожын беларус, бо толькі тады счэзнуць у нас тые перажыткі рабства, каторые пазбаўлялі нас дагэтуль чэлавечай гордасьці, абертали беларускаго селяніна і работніка ў нейкае безгалосае, палахлівае стварэньне, гнуўшае сьпіну перад кожным панам і чынам, сароміўшаеся гаварыць перад імі родным языком, каторы становіць гордасць кожнай нації!

Г. Б.

## „Інтрыга“.

Мы ўжо пісалі аб тым, што на землях, на каторых у межах Польшчы жыве украінскі народ (у Холмшчыне і Падляшы), будзіцца украінскі нацыональны рух. Лёгка зразумець, што вочы тамтэйшаго украінскаго насяленьня ад монархічнай шляхоцкай Польшчы звертаюцца да аддзеленай ваенным фронтам бацькаўшчыны іх Украіны, каторая будуе сваю вольную, незалежную дэмократычную рэспубліку. Лёгка зразумець, што яркіе здарэньня ў расейскай Украіне не маглі не адбіцца тут громкім эхам. І трэба мець запраўды злую волю, каб у гэтым бачыць нейкую «інтрыгу», нейкую „штучную“ работу чужых людзей.

Аднак, такую злую волю выявілі людзі, ад каторых гэтаго зусім нельга было спадзевацца. Нацыоналістычны шал і дайшоўшый у палякоў незвычайнай сілы апэтыт на землі суседзёў адбіўся і на паглядах найбольш дэмократычных элемэнтоў Польшчы—соцыалістоў. Гэта паказвае выступленьне газэты польскіх соцыалістоў „Naprzod“, каторая ў № 155 з 8. VII. 1917 востра нападае на украінскую работу ў Холмшчыне, прыпісываючы яе цэлком... немцам!

Мы ня будзем затрымлівацца над пытаньнем, хто і як выдае першую ў Холмшчыне, ў Белай, украінскую газэту „Рідне Слово“, аб выхадзі каторай „Гоман“ нідаўна пісаў. Дзеля характэрыстыкі палажэньня мы друкуем тут толькі адну вестку, якая дайшла да нас з Расеі,—значыць, адтуль, дзе для „нямецкай інтрыгі“ не магло быць ніякаго мейсца. Вестку гэту падае „Новое Время“ ў нумэры з 10 чэрвеня (нов. стылю). Расейская газэта даносіць с Коcтромы, што эвакуованые туды холмшчане на агульным сходзі ў адзін голас высказалі жаданьне каб Холмшчына і Падляшэ былі прылучэны да Украіны на аснові аўтономіі.

Прыпісываньне «чужацкай інтрызе» ўсяго таго, што непрыемна палякам,—гэта ўжо лішне стары і скомпромітованы способ барацьбы, і вельмі дзіўна, што за яго хапіўся такі орган, як «Naprzod». Дзіўна, бо паводлуг лёгікі гэтай газэты за «нямецкую інтрыгу» трэбало-б аб'явіць і справу незалежнасьці Польшчы: то-ж вольная Польшча паўстала дзякуючы таму, што гэта прызнала карысным для сябе нямецкая палітыка!

*І. М.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **«Помач працай».** Гуляньне, наладжэнае гэтым дабрачынным т-вам, на жаль, не ўдалося с прычыны благой пагоды. Гэта—вялікая шкода як затым, што мэта гуляньня—дабрачынная, так і затым, што яно было наладжэно вельмі добра і паводлуг рознароднай і багатай праграмы.

× **Збор траў і зёлак.** Ешчэ раз напамінаем, што трэбалоб заняцца зборам лекарскіх траў і зёлак.

× **Крадзеная кабыла.** У аднаго падазрыцельнаго чэлавека 15 ліпня адабралі каня, каторы, як здаецца, быў украдзен. Гаспадар каня можэ явіцца па яго у Крымінальную паліцію, Домініканская 1, пакой № 90.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш | найніж. |
|---|---|---|
| 18—19 | + 26° | + 10° |
| 19—20 | + 26° | + 15° |
| 20—21 | + 27° | + 15° |
| 21—22 | + 16,5° | + 13,5° |

## З усяго Краю.

**Вываз цэльлюлёзы ў Нямеччыну.**

Па загаду Глаўнакамандуючаго на Ўсходзі вывазіць цэльлюлёзу ў Нямеччыну можна толькі маючы пазваленьне на пісьме ад Papierholzbeschaffungsstelle, Бэрлін. Гэтае пазваленьне трэба паказваць пры вывазе чыгункай Беласток-Просткен, праз Лібаву і праз Віндаву. Падатак за вываз — 2 м. за кубічны мэтр, або 40 фэн. за 100 кілёгр.

БІЕЛАСТОК. У тую суботу тутізноў адбылося гуляньне, ўладжэнае дзевяцьцю дабрачыннымі таварыствамі. Між іншым, быў прыз за хараство.

У ваколіцах Беластоку многа прыпадкоў крадзежы бульбы на полі.

БЕЛАСТОК. Як у нас ужо пісалося, ў доме № 18 пры Ліповай вул. адкрыта прадажа праўдзівых бруксэльскіх каронак. Беласточане, як жыхары прамышленаго места, якое само выробляе многа падобных выробоў, ахвотне агледаюць выстаўку.

БЕЛАСТОК. 19 ліпня тут выступала дрэздэнская прыдворная опэровая дружына. У праграмі былі опэровые арыі, песьні Шуманна і Бэтховэна і адрыўкі з Легара.

ГРОДНЯ. Віленская жыдоўская трупа закончыла свае спэктаклі пастаноўкай п'есы «Вільнаэр Бэлябэсэр».

ГРОДНЯ. За фальшаваньне хлеба тут зачынілі тры пекарні.

ІНДУРА. За фальшывы данос праз злосць селянін Мацей Марцішко засуджэн у вастрог.

ПОНЕМУНЬ. У тутэйшых ваколіцах было многа крадзежаў калёс. Проці гэтых шкоднікоў у сельскай гаспадарцы загаданы самые энэргічные крокі.

Усё паказвае на тое, што сёлета капусьце зробяць многа шкоды капустные гусеніцы.

В. МАЖЭЙКОВО, пав. Плянты. Тут знайшлі ў лесі ў мяшку ешчэ жывое дзіця невядомай маткі.

ГАНЧАРЫ, пав. Плянты. Сюды прыбілася кабыла, гаспадара каторай дагэтуль знайсьці не ўдалося.

СКАЗДУБ. У аднаго тутэйшаго селяніна укралі пару каней.

КАЦЁЛКІ. Тут укралі каня.

БАРНІШКІ. У аднаго гаспадара укралі пару каней.

КОЎНА. Як мы ўжо пісалі, памятнік «Александраўскі стоўб» на ковенскім пляцу, пабудаваны 23 ліпня 1843 г. на памятку 1812 г., калі былі выгнаны з Расеі французы, разбіраюць, і матэр'ял, з якога ён зроблен, будзе ўжыты дзеля ваенных патрэб.

# Выпісы з беларускай літэратуры.

## Аддзел I.

### Пробкі літэратурнай мовы XIII—XIX сталецьця.

**Мука Ісуса Хрыста.** (XV век).

Мука Господа нашого Ісуса Хрыста от переворотных[1]) жыдов таким обычаем сталасе ест. Колиж немилосьтивые, а окрутные[2]) жыдова гадали[3]) о смерти Господа, какобы его лсциве зымали[4]) да убили, але колі были вельми таемнае рады Юдаш убачыл тое да натыхмест прытекл[5]) до них сьмеле без всякое боязни и рекл: Я ведаю горазд вы чыните, а которые сут' рады ваше. О Ісусе говорыте а радзите, як бы могли есте зымати и убити его. Прото-ж што ми хочете дати—я без всякое працы вашое выдам его в руки ваше. Тогды княжата капланская, услышавшы тую реч от Юдаша радавалися вельми и уставили ему дати трыдцат' пенязей серебреных. І рекл Юдаш: хочу одзь вас вельми рад прыняти и ждал тамо докуль пенязи прынесены, которые пенязи колько тысечый лет у кораблех их лежали замкнутые. Занюж тые пенязи от братов Іозопа черес отец старого закону исходзяче от одного до другого, дивно неразлучоные прешли до Соломона, коли церков божую будовал, да через того Соломона у скарб были уложены и схованы так долго аж до преклятого Юды прышли, коли милостиваго Бога за их продал, а тако за которые пенязи продан Хрыстос Бог. Тогды Юда взявшы пенязи у жыдов рекл: я вам обецал есьми того чоловека выдати, а хочу тое рад учынити, прото-ж коли будзете хотели имати Ісуса, штобы есте не зымали Якова, занюж подобни сут' собе у виденьи. Прото-ж пойду я перед слугами вашими да то им за знамя даваю: которогонь коли поцелую, того нихай зымають да беспечне поведут'. Але то собе вымовляю: хотябы так ушол, альбо убегл слугам вашым, штобы однаково у мене-ж пенязи зостали, штобы ми есте их не отнимали. І полюбили тую реч вси жыдове.

[1]) переворотны — няшчыры, крутач. [2]) окрутные — неміласерные, жорсткіе. [3]) гадалі—думалі. [4]) лсціве сымалі—ціха, спакойна злавілі. [5]) натыхмест прыцекл—тойчас прыбег.

**Абычаі Грекоў.**
(С повесьці а Трох Каралёх XV в.).

Грекове далей. Попове грецкіе сут' жонаты, а носят' долге волосы да не верат' штобы Святый Дух от Отца и сына походил, але тольки от Отца, теж не верат' штобы чыстец был, да тыми члонки от церкве Рымское сут' отделены. Да коли мшу дзержати хотят тогды вырежут' с кислого хлеба гостию альбо оплаток на чотыры углы на посвяшчение, да тую гостию кладут' на блюдечко золотое альбо серебреное, да на верх положат' звезду какбы сковорода зогнутую накрывшы чыстым плат'ем, да по оферторыи уздоймут' блюдо с оплатком и звездою на верх головы. І с кадильницами и свечами з великою пилностию, почтивостию несут' через церков аж до олтара. Тогды весь люд падут' на землю на лице свое. Да то чынят' на знамя занюж Тры Короли Господа Ісуса ис дары искали которіе звезда аж до ясель проводила, да там падше землю перед ним целовали.

**З жыцьця Аляксея чэлавека Божаго.** (XV век).

Святый Олексей был сыном Евфимляновым, мужа прешляхетнаго рымлянина, у дому цесарском первый перед которым тры

КОУНА. Сёлета Нёман будзе выкарыстан дзеля зносін між усходнімі Прусамі і землямі Обэр Ост у гэткай меры, як ніколі не бывало. Пушчэны ў ход усе быўшые на Нёмані буксірные параходы. Між Каралеўцам (Кэнігсбэргам) і Коўнай параходы робяць па некольki пераездоў. Возяць найбольш вугальле і жыта. Цяпер асабліва выяўляецца поўная запушчэнасць Нёмана пры расейцах. Вышэй Коўны, на жаль, пры цяперашнім стане ракі параходны рух блізка зусім ня можэ адбывацца.

КОУНА. Да новаго загаду пазволено знасіцца між местовым і сельскім паветамі Коўны без ніякіх пропускоў, маючы толькі пашпарт Обэр Ост.

СУВАЛКІ. Тут ізноў пачалася агульная ачыстка ад вошы.

МАР'ЯМПОЛЬ. Пачаўшыеся тут 15 марца літоўскіе вычыцельскіе курсы закончыліся эгзаменамі 13 і 14 ліпня. Усе 38 курсістоў эгзамены здалі.

ЛІБАВА. У ваколіцах Сакэнгаўзэн ёсць вялікае тарфянішчэ, с катораго дагэтуль ніхто не карыстаў. Аднак, дарагоўля апалу прымусіла валадзельцоў яго заняцца цяпер дабываньнем торфу.

МІТАВА. Па загаду паветоваго начальніка ўсе служачые ў павеці павінны ў патрэбі адзін дзень у тыдні рабіць у полі.

## ВЕСТКІ З РАСЕІ.

ПЕЦЯРБУРГ. Міністэр-прэзыдэнт князь Львов падаўся у адстаўку. На яго мейсцо назначэн Керэнскій, каторы астаецца і ваенным міністрам. Цэрэтэлі назначэн за міністра ўнутрэных дзел, ды астаецца разам і міністрам почт і тэлеграфоў. Некрасоў назначэн за міністра судоў.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). Кн. Львов вышоў у адстаўку с прычыны недаразуменьня з большай часьцю членоў ураду.

РОТТЭРДАМ. Адстаўка Львова зрабіла ў Англіі вельмі непрыемнае ўражэньне.

МАСКВА. Паводлуг «Русск. Сл.», Керэнскій заявіў, што с цяперашняго хаосу ў Расеі народзіцца дыктатар, каторы выратуе Расею.

ЛЮГАНО «Corr. della Sera» даносіць аб неудаўшыхся пакушэньнях на Керэнскаго, Цэрэтэлі і Львова.

ШТОКГОЛЬМ. Расейскі міністэр таргоўлі Степанов падаўся у адстаўку.

КОПЭНГАГА. «Politiken» даносіць. што на мейсцо Шаховскаго за міністра спраў стравашаньня назначэна графіня Паніна. Гэта— першая кабета-міністэр на сьвеці.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Пецярбурскі ген.-губ. Корнілов назначэн замест ген. Гутора глаўнакамандуючым палудзенна - заходнім фронтам.

ЛОНДОН. Між надпісамі на знамёнах у часі апошняй дэмонстраціі на вуліцах Пецярбурга найбольш цікавы: Даволі вайны! Вон саюзьнікоў! Ня хочэмо саюза з англіцкім і францускім капіталізмам! Ня трэба наступленьня! Вон тайные ўмовы!

Контр-дэмонстрацію зрабілі толькі дэпутаціі ад двох палкоў і некаторые жаноцкіе «батальёны сьмерці». Салдаты-кабеты ў незграбнай опратцы, доўгіх ботах, з абстрыжэнымі валасамі мелі вельмі змучэны выгляд і вызывалі жаласць.

ШТОКГОЛЬМ. Ужо ў тую суботу ў Пецярбурзі было вядома, што войско ў Пецярбурзі і ваколіцах збіраецца зрабіць вялікую дэмонстрацію проці тымчаеоваго ўраду і Керэнскаго. Вызваны тэлеграмай у Пецярбург Керэнскій паехаў у казармы, прызываючы салдатоў пакінуць думку аб дэмонстраціі, але гэта яму не ўдалося. Салдацкіе камітэты зажадалі адстаўкі ўсіх міністроў, апрыч соцыялістоў, стрыманьня наступленьня і непасыланьня больш войск на фронт. Дэмонстрація мо' прайшла бы без праліцьця крыві, але Керэнскій паслаў проці дэмонстрантоў войско і ў тым ліку донскіх казакоў. Тады дэмонстранты пачалі стрэляць у іх с кулемётаў са сваіх панцырных аўтомобілёў.

ЛЮГАНО. «Corr. d. Sera» даносіць с Пецярбурга, што збунтаваўшыеся салдаты заўладалі Ісаакіеўскім саборам і архівамі ураду. Пецярбурскіе вагзалы заняты верным ураду 3-ім артылерыйскім палком.

ПЕЦЯРБУРГ. 17 ліпня а 8 гадз. вечара ў горадзі вернен лад.

17 ліпня раніцай у Пецярбург прыбыло некольki ваенных часьцей с Кроншталту, Ораніэнбаўма і Пэтэргофа. Да іх далучыліся тры палкі і адзін батальён грэнадзэроў пецярбурскаго гарнізона. Гэтае войско разам з вялікай грамадай народу пайшло ў Таўрыдзкі палац.

Шмат дзе ў горадзі стрэлялі з рэвольвэроў, вінтовак і кулемётаў. Знойдзены забітые і раненые. Дэмонстранты арэштавалі міністра сельскай гаспадаркі, Чэрнова, але скора выпусьцілі.

У паліцэйскім участку Ліцейнай часьці налічылі 100 раненых.

У вечары між дэмонстрантамі і казакамі была стычка. Некольki душ ранены і забіты. На Невскім пр. забіты 5 асоб, ранены 20.

Рада міністроў вызвала тэлеграмай Скобелева с фронту, каб ён супакоіў работнікоў.

18 ліпня, а 1 гадз. ў дзень, Ізмайлоўскій і Сямёнаўскій палкі ўварваліся ў Таўрыдзкі палац, пеялі Марсэльезу і крычалі ура цэнтральнай уласьці рэволюцыйнай Расеі. Чхэідзэ і Скобелев прамовілі да іх.

Адстаўка міністроў-кадэтоў прызнана крайнімі левымі за знак слабасьці ўраду.

Забаставало 30.000 работнікоў.

Цэлые грамады арэштаваных матросаў, работнікоў і салдатаў прыводзяць у глаўны штаб пецярбурскаго ваеннаго округа.

Дэмонстранты здалі многа кулемётаў.

С фронту выслано ў Пецярбург войско бараніць урад і раду раб. і салд.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Керэнскій вярнуўся ў Пецярбург.

Анархісты пакінулі свой апошні прыпынак—дом Дурново.

Большая часць пецярсурскіх фабрычных работнікоў ізноў пачала работу.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Тымчасовы ўрад пастанавіў выслаць с Пецярбурга на фронт усё войско, прылучыўшаеся да бунту 16—18 ліпня. Гэтак сама тымчасовы ўрад пастанавіў аддаць пад суд за здраду Бацькаўшчыны ўсе організаціі і ўсіх асоб, замешаных у бунце.

ШТОКГОЛЬМ. Адначасьне з разрухамі ў Пецярбурзі узняўся рух па ўсіх провінціальных местох проці наступленьня с прычыны неахвоты салдатоў ісьці на фронт. У Харкові цывільные асобы стрэлялі ў казармы аднаго палка, каторы хацеў ісьці на фронт.

У Астрахані салдаты па 40 гадоў веку, каторых пусьцілі да хаты на час работ у полі, адмовіліся вярнуцца на фронт. Уся Расея раздзялілася на два абозы: імпэрыялістоў і крайніх радыкалоў.

Як даносяць с Турэччыны, Крым аб'явіў сябе незалежным.

МАСКВА. «Русск. Сл.» пішэ, што ў Одэссі цэлком пануюць рэволюцыйные палкі, прызываючые народ рабіць дэмонстраціі за мір і скінуць тымчасовы ўрад, падкуплены Англіей.

ЛОНДОН. «Daily Mail» даносіць с Пецярбурга, што зносіны с Кіевам разорваны, ды там узняліся вялікіе ваенные бунты. Падробнасьцей німа.

«Times» пішэ, што ў Кіеўскай і Палтаўскай губэрні узняліся чысьленые пагромы ў панскіх дварох. Казакі выступілі проці соцыялізаціі зямлі.

«Daily News» даносіць с Пецярбурга, што Фінляндзкі ўрад аб'явіў усе умовы з Расеей невâжнымі.

ЛОНДОН. «Daily Mail» даносіць с Пецярбурга, што палажэньне Расеі—безнадзейнае, калі яе ня выратуе Керэнскій. На вуліцах Пецярбурга адбываюцца тысячы сходак. З упадкам дынастыі твор Петра утраціў сваё значэньне. Народ угледаецца на Маскву і жджэ моманту, калі тымчасовы урад туды пераедзе.

ШТОКГОЛЬМ. «Socialdemokraten» даносіць, што б. дэпутат Думы, Алексінскій, апублікаваў дакумэнт, выказваючы, што Ленін і яго таварышы—нямецкіе агенты. Пасьля гэтаго народ разграміў рэдакцію органа Леніна «Правды». Рада раб. і салд. загадала арэштаваць Леніна і яго таварышоў, каторые за здраду гасударства аддаюцца пад ваенны суд. Большэвікі маняцца паслаць на Пецярбург Смаленскую армію.

ПЕЦЯРБУРГ. Ленін, Каменёв, Інов'ев і Козловскій счэзьлі. Здаецца, што яны укрыліся ў Фінляндзіі. Паворлуг іншых вестак, Ленін уцёк у Кроншталт, апрануўшыся ў матроскую форму.

ПЕЦЯРБУРГ. Рада раб. і салд. прыняла новую рэзолюцію аб міры 410-цю проці 125-ці галасоў і незначнай перэвагай галасоў за жадала адстаўкі Брусілова.

«Правда», газэта Леніна, друкуе адозву, прызываючы да соцыяльнай рэволюціі. Якобінство XX сталецьця—гэта панаваньне рэволюцыйнай работніцкай клясы, каторая створыць усё вялікае. Сьвядомые работнікі бачуць у якобінстве ядыны выхад з ваеннаго крызіса.

ШТОКГОЛЬМ. У нумэры «Нов. Вр.» с 30 чэрвеня надруковано, што жыхары Архангельска прынялі прысланых туды жуавоў за палонных туркоў і пабілі іх. З гэ-

---

тысечы детей стояло, котории снурами золотыми препоясовалися а в рубье шолкове облачалися. А тот Ефимлян был вельми милосердный, а на кожную днину у его дому тры столы убогим, сиротам, пергримом и вдова поставливаны которым-же мужне служыла его жона именем Аглаяс, тогожэ закону и тогож умыслу была. . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . уделали гроб ис золота и с жемчуга и з дорогого камения у котором пресьвятого цело с великою честию положыли, а с того гробу пресласный запах запахнул аж усим виделосе иж бы был дорогих мастей полон. А умерл у летех Божего нарожения во сту и в девяцьдесят' и восьми лет.

### З беларускіх летапісей.

#### Перэсказ аб пачатках Літвы.

Одного часу панство Рымское было под цесаром Августом который же не только одному Рыму, ино всему свету пановал. Яко-ж вышей описано, иж часу цесарства Августова Сын Божий воплотился, а часу Тиверыя цесара, второго по Августе, на кресте вольную муку прынял для збавеня и откупеня роду чоловечаго. За которого-ж Тиверия вси речи и пророчествы пополнившы, по встани з мертвых, вступил на небо и сел на правицы в Бога отца и отдати каждому водле заслуг его.

По смерти Тиверыя цесара был цесарем Гаёс, а по Гаёсе Клавдий, а пе Клавдии царствовал сын его Нерон, который-же был пан окрутный а невставичный, иж властную матку свою и доктора своего найвысшаго Сенеку, без кождое прычыны ку смерти прыправил и колько раз казал место Рымское запаливат', а ни для чого иншого, только для того, иж бы ся тому дивовал и потеху мел. А княжатом и паном рымским, шляхте и всему поспольству крывды и втиски чынил, для чого-ж всякий подданый его, для великого окрутенства и невставичности его не был нихто певен ани беспечон не тоҍько имений альбо скарбов, але и здоровя своего, втикали ся до розмаитых земль, наслядуючы справедливого упокою.

Где-ж одно княжа рымское именем Палемон, который же цару Нерону был кревный, забрал ся з жоною и з дет'ми своими и с поддаными и скарбы своими, с которым то княжатем пят' сот шляхты также з жонами и з цет'ми и з могими силами. I взявшы з собою одного астронома, который ся знал по звездах, и пошли у кораблех морем по заходу солца, хотечы собе знайти на земле местце слушное, где бы ся мели поселити и мешкати з покоем. А з тыми шляхты чотыры рожаи навышшые имени, именем с Котаврус-Девспруни, а з Колюмнов—Прешпор, а з Руси—Улянус, а з Рож—Ектор. А так оные люди не малый час по мору ходили и прышли до Межыземского мора и дошли до реки Шума и тою рекою Шумою в море окиян и морем окияном дошли до реки устя, где Немон упадывает' у море окиян. I потом пошли рекою Немном у верх олиж (аж) у море Малое, которое называется море Немновое, иж в тое море Немон упадывает' дванадцат'ма устьи, а кождое зовется особным именем, межы которыми-ж устии одно зовется Гилия. I пошли тым устем и дошли до целого Немна где вже он сам увесь у в одном местцу течет'. I верх Немна дошли до реки Дубисы, яко-ж вшедшы в тую реку Дубису и нашли над нею горы высокие и ровнины великие и дубровы роскошные и розмаитых обфитостей наполнено у зверх рознаго рожаю то ест найпервей: туров, зубров, лосей, оленей, сарн, рысей, куниц, лисиц, белиц, горностаев. и иных розмаитых рожаев; и теж у реках великую обфитост' рыб непосполитых, иж не только тые рыбы, которые ся в тых реках плодят', але мрожство рыб розмаитых, а дивных прыходят' з мора за тою прычыною, иж недалеко устие Немновое, где Немон у море впадает'. Над которими-ж реками, над Дубосою и над Немном и над Юрою там ся поселили и оное мешкане их над тыми реками вельми ся им подабало и назвали тую землю Жомоит' (Жмудзь).

таго відаць, што Архангельск заняло францускае войско.

ЛОНДОН. Адгэтуль едзе ў Расею англіцка-амэрыканскі камітэт інжэнероў дзеля будоўлі ветак да чыгунак за фронтам. Камітэт займецца такжэ справай будоўлі караблёў з дрэва на ўсходнім узбярэжжы Сібіру, дзе ёсць вялізарные лясы.

ПЕЦЯРБУРГ.. «Рэч» пішэ, што паверэнаго расейскаго цара, міністра двара Фрэдэрыкса, выпусьцілі с Петрапаўлаўскай крэпасьці пад залог 250.000 руб. Яго памясьцілі у бальніцу ў Царскім Сяле

На начным заседаньні спаўніцельны камітэт Думы пастанавіў развязацца, ня хочучы браць на сябе адказу за цяперашняе палажэньне.

ШТОКГОЛЬМ. Значэньне украінскаго руху асновано на тым, што ў гэты момэнт у расейскай арміі і флоце ёсць мільён украінцоў. У вялікай расейскай арміі гэтак намечаецца развал, грозны для ваеннай акціі.

Кронштацкая рэспубліка дзержыцца ня гледзячы на ўсе офіцыальные заявы с Пецярбурга і выдае свае ўласные прыказы нават у ваенных справах. Гэтак, 8 ліпня тамтэйшы ўрад загадаў распусьціць 1 і 2 роты флота за п'янство і распусту. Прэдлажэньне некалькіх членоў кронштацкай рады раб. і салд., каб аб гэтым быў паведомлен тымчасовы ўрад або прынамсі пецярбурская рада раб. і салд., адкінуто.

ШТОКГОЛЬМ. Фінляндзкі сэйм 136-цю проці 55-ці галасоў прыняў закон аб аўтономіі Фінляндзіі. Прэдлажэньне младо-фінна Уаласа, каб гэты закон быў пададзен тымчасоваму ураду Расеі дзеля зацьверджэньня, адкінуто 104 галасамі проці 84. Рух проці расейскіх гарнізонаў у Фінляндзіі расьце, і ўсе гарады прэдлажылі генэрал-губэрнатарам узяць с Фінляндзіі расейскае войско.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). З Гэльсінгфорса даносяць, што фінляндзкі сэнат с прычыны прыняцьця фінляндзкім сэймам закона аб аўтономіі ўвесь падаўся у адстаўку.

На ўсіх урадовых будынках вывешэн фінляндзкі нацыональны флаг.

ПЕЦЯРБУРГ. У Гэльсінгфорсі 19 ліпня адбылося першае заседаньне аўтономнай Фінляндзіі. Сэйм прасіў тымчасовы ўрад, падаўшыйся у адстаўку, астацца на сваім мейсцы да часу, пакуль не наладзіцца новае правіцельство.

## З усяго сьвету.

БЭРЛІН. Сюды прыехаў мітрапаліт Шэптыцкі. Мітрапаліт едзе у Швэйцарыю, а адтуль, на жаданьне Папежа, ў Рым.

БЭРЛІН. У свaей уступной прамове новы канцлер сказаў між іншым гэтак:

„Нямеччына не хацела вайны дзеля заваеваньнёў пры помачы гвалту і яна ня будзе ваеваць ні аднаго дня болей, чым трэба дзеля пачэснаго міра. Ешчэ раз суліць міра мы ня будзем. Мы хочэмо забаспечыць граніцы Нямеччыны назаўсёды. Мір павінен быць асновай дзеля трывалай згоды між народамі. З вашай рэзолюціей аб міры, як я разумею яе, я згаджаюся. Калі ворагі хочуць вясьці перэгаворы, дык мы ў іх спытаемся, што яны нам хочуць сказаць? Да тэй пары мы павінны вытрываць спакойна і цярпліва".

Канцлер закончыў прамову заявай аб сваей поўнай веры у шчасьлівы канец вайны.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Імператар сягоньня вёў у гмаху міністэрства ўнутрэных спраў гутарку с кіраўнікамі парлямэнцкіх партый. Пры гэтым імператар першы раз у жыцьці спаткаўся і гутарыў с соцыалістамі.

ПАРЫЖ. (В.Т.Б.). Агітація проці прэзыдэнта Пуанкарэ трывае далей. Абурэньне с прычыны нeўдачнаго веснавога наступленьня ў Шампані захоплівае ўсё болей і болей шырокіе кругі. У палітычных кругах ходзяць гутаркі нават аб сазыве нацыональнаго сабраньня ў Вэрсалю, а гэта быў бы яўны знак недавер'я да прэзыдэнта.

КОПЭНГАГА. У часі агітацыйнай падарожы Ллойда Джорджа у Глязго былі цэмонстраціі проці яго. Соцыалісты, быўшые на мітынгу і выступаючые проці вайны, калі паявіўся Ллойд Джордж, запеялі рэволюцыйную песьню „Чырвоны Штандар".

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

ВЕНА (В.Т.В.). Место Тарнополь і чысьленые вёскі на ўсходзі ад Сэрэта стаяць у агні.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Як і ў часі вялікаго расейскаго адступленьня ў 1915 г., так і войскі, якімі цяпер кіруе Керэнскій, падпаліваюць усе гарады і вёскі, пакінутые пабедзіцелю. Усе дарогі адступленьня засыпаны ваеннымі матэрялами, пераверненымі вазамі і кінутымі рэчамі. Чысло палонных і дабыча растуць з гадзіны на гадзіну.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Рэйхстаг аканчацельна зацьвярдзіў ваенные крэдыты на 15 мільярдоў марак. Проці гэтаго падалі галасы незалежные соцыалісты. Чароднае заседаньне Рэйхстагу будзе 26 ліпня.

БЭРЛІН. У Англіцкім канале зноў затоплены тры параходы і 2 парусьнікі.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Біскайскай затоцы і Атлянтыцкім акіане ізноў затоплены 20.000 тонн.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). У Сяродземным моры і Біскайскай затоцы затоплены падводнымі лодкамі 52.000 тонн. У тым ліку англіцкая падводная лодка Ц 34. З яе ўзят 1 палонны.

БЭРЛІН. (В.Т.Б.). Аканчацельна установлено, што за месяц чэрвень затоплено 1.016.000 тонн. Ад часу неаграні́чэнай падводнай вайны—4.671.000 тонн.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### Нямецкіе апавешчэньня:

**20.VII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі — сільная баевая чыннасць, каторая пасьля абеду сталася незвычайна вострай. На фронці Артуа — сільны агонь артылерыі. Пры Гаврэль і Монші атакавалі англічане, а пры С.-Кантэн— французы. Мы удэржалі ўсе пазыціі.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* На паўночным заходзі ад Краонн мы здабылі часць францускіх пазыцій на Зімовай гарэ. Узяты 375 палонных і многа матэр'ялоў. У начы пачаліся францускіе контратакі. Мы утрацілі часць здабытых у дзень пазыцій.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* 1 ліпня расейскі ўрад пачаў сваё наступленьне. Учора, у адказ на гэта, нашы войскі пачалі контратаку. Нямецкіе корпусы, пасьля сільнай падгатоўкі агнём, прарвалі тры ўмацаваные лініі расейцоў між Сэрэтам і Залатой Ліпай. Ворагі безладна адступілі. Да палудня мы ўзялі некалькі тысяч палонных.

Пры Якобштадці, Дзьвінску, Смаргоні, на Стоходзі і ад Залатой Ліпы да Днестра крапчэў агонь артылерыі. Пры Новіцы, на Ломніцы, адбіт з вялікімі стратамі новы расейскі штурм.

Фронт *эрц-гэрцога Іозэфа.*: У паўночных Карпатах — агонь крапчэйшы, чым заўсёды.

На іншых фронтах—нічога выдатнаго.

**21. VII. Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі артылерыйская бітва была вельмі вострая. На фронці Артуа артылерыйская чыннасць крапчэла.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам — востры агонь. У вечары нашы дружыны ўварваліся на францускіе пазыціі і вярнуліся са 100 палоннымі французамі без ніякіх страт. На палудзенным заходзі ад Рэймса і наабапол Маасу нашы дружыны разведчыкоў прывялі с сабой многа палонных.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Нашае наступленьне ў усходняй Галічыне развіваецца згодне з нашым жаданьнем. Нашы войскі на шырыні 40 кілём. перайшлі цераз чыгунку Злочов-Тарнополь наабапол Езёрнай. Як і раней, дарогу адступленьня расейцоў значаць пажары вёсак і страшэнные спустошэньня. Ждуць новых бітв. На поўначы ад Бэрэжан, пасьля упорнай бітвы аўстрыяцкіе войскі занялі ізноў утрачэные 1 ліпня пазыціі. На поўначы ад Днестра адбіто расейскае наступленьне. На поўдні ад Днестра ворагі выкінуты з Бабіна. Пры Новіцы нямецкіе і аўстрыяцкіе войскі здабылі штурмам горные пазыціі.

Ад Стохода да Балтыцкаго мора крапчэў агонь. Асабліва сільны агонь між Крэвам і Смаргонямі і каля Дзьвінска.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* У лясістых Карпатах ажыўлены агонь.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На ніжнім Сэрэці чыннасць расейцоў і румыноў узмацавалася. Узяты 80 палонных румыноў і некалькі кулемётаў.

**22.VII. Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* На паадзінокіх адрэзках фронту у Фляндрыі — вострая артылерыйская бітва. У Артуа — ад каналу Лябассэ і на палудзень ад Ленс— жывы агонь.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Шмэн дэ Дам нашы дружыны разведчыкоў у розных пунктах урываліся на лініі ворагоў, узялі палонных і адбілі контратакі.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* Група войск Бэм Эрмолі:

Пачатая 19 ліпня контратака ў усходняй Галічыне разраслася ў вялікую пабеду нямецкіх і саюзных з імі войск. Глаўная часць расейскай арміі разбіта. Ня гледзячы на надта благую дарогу, нашы войскі неустанна наступаюць. У вострых бітвах адкінуты ўсюды расейскіе сілы, памыкаўшыеся нас задзержаць. У ваколіцах на заходзі ад Тарнополя мы шмат у якіх мейсцах дайшлі да чыгункі Бэрэжаны—Тарнополь. Пад націскам на яе крыло стаяўшая пад Тарнополем VII расейская армія пачала адступаць. Чысло палонных і дабыча—вялікіе. У Езерне ў нашы рукі папалі значные запасы прадуктоў, снарадоў і ваенных матэр'ялоў.

Група войск Войрша:

Жывейшая артылерыйская бітва на Шчары і Сэрвэчы.

Група войск Эйхгорна:

Пасьля сільнай артылерыйскай падгатоўкі, трываўшай многа дзён, расейцы атакавалі ўчора між Крэвам і Смаргонямі. Іх штурм зламаўся з вялікімі стратамі с прычыны адпору нямецкіх войск. Сягоньня тут узняліся новые бітвы. У ваколіцах возера Нароч і між Дрысьвяцкім возерам і Дзьвінскам агонь значна узмацаваўся.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* Жывы агонь у паўночных Карпатах. У далінах Касіну і Сусіта перэдавые стычкі.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей.